# Тыднёвік Магілёўскі




№ 24 (139) 14 – 20 сьнежня 2001 г. Кошт 80 руб.


## Што ж яно такое, гэтае эс-эн-дэ?..






Фота IREX

*Споўнілася 10 год Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў. Нельга абмінуць гэтую тэму ўжо толькі таму, што менавіта падпісаньне Белавескіх пагадненьняў дало магчымасьць 15-ці былым рэспублікам савецкай імпэрыі спраўдзіць Незалежнасьць. Іншая справа, што, прыкладам, Беларусь і да сёньня не разумее, што гэта такое, і таму ўспрымае СНД як знак вяртаньня ў бліжэйшай будучыні ва ўлоньне нечага падобнага на СССР. Чым жа ёсьць СНД сёньня?..*

*На гэтую тэму разважаюць дырэктар Цэнтру ў пытаньнях эўрапейскай інтэграцыі пры Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце ў Менску Юры Шаўцоў і карэспандэнт расейскай службы радыё "Свабода" Віталь Портнікаў.*

***Портнікаў:*** *Гэта, без сумненьня, прэзыдэнцкі клюб, бо ніякіх прыкметаў эфэктыўна дзеючай міжнароднай арганізацыі ў СНД няма. Іншая справа, што прэзыдэнты сустракаюцца ня толькі каб задаволіць настальгію сваіх падданых, але і каб вырашыць нейкія практычныя пытаньні. Бо мэханізмы ўзаемадзеяньня настолькі заржавелі, што часам даводзіцца ісьці на ўзровень асабістых кантактаў, каб нешта зрушыць зь месца. Хаця гэта і не заўжды атрымліваецца.*

***Шаўцоў:*** *Мне здаецца, што зараз могуць быць нейкія зрухі. Пасьля таго як Расея пачала вельмі хутка збліжацца з Захадам, узьнікае пэрспэктыва пераўтварэньня СНД з абшару, дзе краіны бягуць ад Расеі ў розныя бакі, у іншую форму, дзе ўнутры СНД можа ўзьнікнуць новая праэўрапейская "вось". Вакол гэтай восі можа адбыцца рэінкарнацыя СНД у штосьці новае.*

*– Ці дапусьціць Масква, каб рэальна пачала дзейнічаць падобная скіраванасьць унутры СНД?*

***Портнікаў:*** *Думаю, што СНД ствараліся, каб задаволіць амбіцыі Расеі, што яна застаецца цэнтрам для былых савецкіх рэспублікаў. Я думаю, што калі Расея хоча сапраўды ісьці на Захад, то ўзьнікае пытаньне, чаму яна павінна пасярэднічаць у гэтым паходзе для сваіх суседзяў, калі тыя хочуць таго ж? Праблема Украіны, Беларусі і Малдовы якраз была ў тым, што яны нікуды не хадзілі, яны ўсе гэтыя гады стаялі на месцы. І зараз ёсьць надзея, што гэтае манэўраваньне паміж Захадам і Расеяй, якое дазваляла іхным элітам нічога не мяняць, разыгрываючы фіктыўную актыўнасьць, скончыцца. І тады ім прыйдзецца зрабіць сапраўдны выбар.*

***Шаўцоў:*** *Справа не ў Расеі. Галоўная прычына таго, чаму былыя заходнія савецкія рэспублікі даволі павольна рухаліся на Захад (а Беларусь увогуле ня рухалася) – у тым, што Захад ня меў асаблівых інтарэсаў на гэтай тэрыторыі. А зараз ЭўраЗьвяз мае такія інтарэсы. І надыйшоў час для рэалізацыі буйных праектаў (перш за ўсё нафтагазавых), пра якія раней былі толькі размовы... Для ўсёй гэтай новай эканамічнай тэндэнцыі спатрэбіцца нейкая палітычная "надбудова". Хутка мы пабачым, як яна будзе выглядаць.*

*– Які ўплыў "саюз Беларусі й Расеі" мае на разьвіцьцё стасункаў унутры Садружнасьці?*

***Портнікаў:*** *Я думаю, што на першым этапе існаваньня гэтага саюзу ён выклікаў раздражненьне, бо многія краіны СНД выступалі ўвогуле супраць расейскай канцэпцыі "рознахуткаснай інтэграцыі", якую Масква абрала, калі ўбачыла, што ня можа пераўтварыць СНД у Савецкі Саюз. Але ў прынцыпе ўсе цудоўна разумеюць, што ніякага беларуска-расейскага саюзу на самой справе не існуе, як не існуе і "саюзнай дзяржавы". Гэта – шыльды, і колькі б іх не было прапанавана міжнароднай супольнасьці, ясна, што ў беларускага кіраўніцтва няма аніякага жаданьня губляць суб'ектнасьць міжнароднага права.*

***Шаўцоў:*** *Я думаю, што іншыя краіны СНД маюць значна меншыя магчымасьці лябіраваць свае інтарэсы ў Расеі. Беларусь здолела навязаць Расеі свой абрыс двухбаковых дачыненьняў.*

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## З шапкай да выканкаму

***У сераду звыклыя да працы ў цішы сваіх кабінэтаў чыноўнікі аблвыканкаму былі напужаныя нечаканым візытам працоўнай дэлегацыі ў складзе блізу 30-ці чалавек.***

Рабочыя магілёўскага будаўнічага трэста №12 на чале з старшынём сваёй першаснай суполкі Свабоднага прафсаюзу, мулярам Аляксеем Паўлоўскім, мелі намер патрапіць да Б.Батуры. Пастаўвыя міліцыянты, зразумела, іх не прапусьцілі. Аднак рабочыя, асабліва жанчыны, не здаваліся, бо прыйшлі за сваім заробкам, якога ня бачаць ужо ня першы месяц. У знак пратэсту супраць таго, што ня могуць вольна прайсьці да "губэрнатара", рабочыя паўсталі побач зь міліцэйскім постам з шапкамі ў працягнутых руках – як тое робяць жабракі. Гэта дало свой плён – да іх выйшаў памочнік старшыні аблвыканкаму Варанцоў. Некалькіх прадстаўнікоў дэлегацыі ён суправадзіў у свой кабінэт, дзе адбылася гаворка "глухога з сьляпым".

Рабочыя даводзілі, што кіраўнік трэсту Ваксман патлумачыў ім прычыну адсутнасьці заробку менавіта тым, што бюджэтныя арганізацыі (выканкамаўскія) не разьлічыліся за шэраг выкананых работаў. А памочнік Варанцоў раіў рабочым вырашаць пытаньні сваіх заробкаў з кіраўніцтвам трэсту. На прапанову сурazмоўцаў распрадаць з выканкамаўскіх кабінэтаў камп'ютары ды іншую шыкоўную аргтэхніку (чаго й хопіць ім на зарплату), ён адрэагаваў заўвагай наконт "шарыкаўшчыны", якая даўно мінула. Крыху пазьней за дэлегацыяй прыйшоў намесьнік старшыні гарвыканкаму сп.Дзюбаўлаў, які вядзе пытаньні будаўнічай галіны, а цяпер яшчэ й выконвае абавязкі старшыні гарвыканкаму. Размова ў ягоным кабінэце таксама не дала выніку. На разьвітаньне дэлегацыя трэста №12 паабяцала, што калі ня будзе бліжэйшым часам вырашанае пытаньне з выплатай ім запазычанага заробку, яны папросяць сваіх калегаў з 59-га ўпраўленьня спыніць узьвядзеньне бюджэтнага катэджу для сям'і старшыні аблвыканкаму Батуры.

*Юры НОВІКАЎ*

## Шчырае спадзяваньне

***9-га сьнежня паўтары дзясяткі сябраў мясцовай філіі Маладога Фронту і Магілёўскага аддзяленьня праваабарончага цэнтру "Вясна" нагадалі гараджанам пра Дзень абароны правоў чалавека.***

На вуліцах гораду яны задавалі мінакам пытаньні, датычныя прыняцьця Ўсеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, а таксама высьвятлялі ў людзей, ці ведаюць тыя свае ўласныя правы. Адказы былі, на жаль, амаль аднолькавыя: ніхто ня ведаў пра гэты Дзень, і аб сваіх правах мінакі не маглі дакладна выказацца.

Актывісты наведалі некалькі гарадзкіх аддзяленьняў міліцыі, у якіх падчас выбараў яны самі былі нярэдкімі "гасьцямі", і падаравалі асобнікі Дэкларацыі міліцыянтам. Пры гэтым яны выказалі спадзеў на тое, што супрацоўнікі МУС прачытаюць Дэкларацыю й будуць неадступна прытрымлівацца прапісаных там рэчаў у будзённай працы.

◆

У той жа дзень, як было абвешчана загадзя, каля будынку дыягнастычнага цэнтру блізу двух дзясяткаў чалавек утварылі "Ланцуг неабыякавых людзей".

Яны ў атачэньні некалькіх міліцыянтаў трымалі партрэты зьніклых апанэнтаў рэжыму. Прастаяўшы 15 хвілінаў, людзі мірна разышліся. Падчас абедзьвюх акцыяў ніхто ня быў затрыманы.

*Уласная інфармацыя*

## Справа ясная як белы дзень

Аддзел дазнаньня РАУС чарговым разам спыніў сьледзтва па крымінальнай справе супраць журналістаў крычаўскай незалежнай газэты "Вольны Горад".

Зноў справа была закрытая з фармулёўкай "з-за адсутнасьці складу злачынства". Апошняе слова ў гэтай сумнай гісторыі засталося за пракуратурай.

*Андрэй КУЗЬМІН*

# У гэтых дзяцей пачаліся Калядныя сьвяты

У мінулую нядзелю ў Магілёўскім грамадзкім жаночым цэнтры падтрымкі і самаадукацыі адбылася ўрачыстасьць з нагоды першай гадавіны з дня нараджэньня так званага "Дзіцячага праекту".

Увесь гэты час дзеці навучаліся тэатральнаму ды выяўленчаму мастацтву, дапамагалі ў якасьці валанцёраў у правядзеньні розных дабрачынных акцыяў. Выстава дзіцячых малюнкаў дэманстравалася ў трох гарадах Нямеччыны. На сьвята былі запрошаныя бацькі дзяцей, прадстаўнікі іншых грамадзкіх арганізацыяў, у ліку якіх былі рэпрэзэнтанты "Кола Сяброў" – той структуры, якая ад пачатку актыўна падтрымлівала гэты дзіцячы рух.

Дзеці за сваю працу атрымалі каштоўныя падарункі, дыплёмы, сэртыфікаты, цёплыя словы падзякі ад дарослых. Але й яны самі добра падрыхтаваліся да імпрэзы, заграўшы невялічкія тэатральныя й музычныя нумары. Напрыканцы сьвята адбылася цудоўная дыскатэка, падчас якой усім прыйшоўся вельмі даспадобы салодкі стол. Дзіцячыя твары сьвяціліся ўсьмешкамі радасьці й шчасьця.

*Дзяніс НОВІКАЎ*
*Фота аўтара*







# Перапынку ў высілках ня будзе

***"Нягледзячы на гераічныя высілкі АБСЭ на чале з амбасадарам Вікам, прэзыдэнцкая выбары ў Беларусі не адпавядалі міжнародным стандартам", – заявіў дзяржаўны сакратар ЗША Колін Паўэл.***

Сваю заяву К.Паўэл агучыў днямі ў Бухарэсьце на сустрэчы міністраў замежных справаў краінаў-сяброў АБСЭ. Паводле сп.Паўэла, урад Беларусі праігнараваў рэкамэндацыі датычна ўмоваў для забесьпячэньня свабодных і справядлівых выбараў. "Вельмі шкада, што ўрад Беларусі працягвае дзейнічаць так, што ў выніку Беларусь застаецца па-за межамі агульнаэўрапейскага палітычнага жыцьця", – канстатаваў амэрыканскі дзяржсакратар. Ён таксама паведаміў аб тым, што Злучаныя Штаты будуць працягваць разам з АБСЭ працу на карысьць разьвіцьця ў Беларусі сапраўдных дэмакратычных інстытуцыяў і моцнай грамадзянскай супольнасьці.

Амбасадар Г-Г.Вік, які працуе ў Беларусі блізу 5-ці гадоў, са свайго боку падтрымаў і станоўча ацаніў выказваньне К.Паўэла. Дзейны старшыня АБСЭ, міністар замежных справаў Румыніі, Мірчэ Джаана паведаміў падчас сустрэчы, што пераемнік сп.Віка, які пакідае пасаду адпаведна правілаў АБСЭ, будзе прызначаны ў Беларусь найбліжэйшым часам.

*Паводле інфармацыйных агенцыяў*

**P.S.** Міністар замежных справаў Беларусі Міхаіл Хвастоў на гэтым тыдні адмовіўся камэнтаваць вышэйзгаданае бухарэсцкае выказваньне амэрыканскага Дзяржсакратара. Нэрвова адрэагаваў ён толькі на выказваньне польскага калегі, што прыйшло з Варшавы. Міністар замежных справаў Польшчы Валадзімеж Цімашэвіч зазначыў, што эўрапейскія стасункі Беларусі ня могуць палепшыцца, пакуль краіна ня выканае вядомыя чатыры ўмовы: дэмакратычныя выбары, выкрыцьцё вінаватых у зьнікненьні апанэнтаў рэжыму, доступ апазыцыі да дзяржаўных СМІ, пашырэньне паўнамоцтваў заканадаўчай галіны ўлады. М.Хвастоў пракамэнтаваў заяву В.Цімашэвіча ў тым сэньсе, што польскі міністар, а нават і самая Польшча – гэта ня ўся Эўропа. Пры гэтым свае надзеі на паляпшэньне стасункаў афіцыйнага Менску з Эўропай і цывілізаваным сьветам увогуле сп.Хвастоў наўпрост зьвязаў з расейскай замежнай палітыкай. Тое, што Расея паляпшае свае адносіны з Захадам, сказаў ён, станоўча адаб'ецца й на нас.

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК у пытаньнях палітыкі*

# Масьлюка нельга не паслухаць...

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатар імя Янкі Купалы, дзе апошнія гады працаваў Валеры Масьлюк, наведае другую творчую радзіму гэтага выдатнага творцы ў бліжэйшы панядзелак, 17 сьнежня.**

Віцебляне прывезьлі да нас спэктакаль "Кахаю, веру, спадзяюся..." па п'есе Энтані Сьверлінга. Гэта будуць маналёгі пра Тэатар, а значыць – пра Жыцьцё. Валерыю Масьлюку належаць ідэя, пераклад, сцэнічная вэрсія, пастаноўка і сцэнаграфія, касьцюмы і музычнае афармленьне гэтага спэктаклю. Аднаго не пасьпеў да сваёй раптоўнай сьмерці актор, рэжысэр і паэт – паставіць п'есу на сцэне, а магчыма, і сыграць у ёй...

Гэта зрабілі ягоныя сябры і калегі, як даніну памяці творцы. Цяпер яны правязуць спэктакаль па ўсёй Беларусі, якую Валеры Масьлюк любіў больш за ўсё на сьвеце. Яны будуць такім чынам зьбіраць грошы на выданьне кнігі ягоных лірычна-кранальных вершаў – ізноў жа пра тэатар, краіну, час і людзей. Пра Жыцьцё...

# Мала хто ў сьвеце рызыкуе замінаць студэнтам

**3-га сьнежня Вярхоўны суд Беларусі задаволіў запыт Міністэрства юстыцыі й зьліквідаваў адну з найстарэйшых (у сувэрэнай РБ) беларускіх моладзевых арганізацыяў – Задзіночаньне беларускіх студэнтаў.**

Судовыя паседжаньні ў гэтай справе цягнуліся з 27-га лістапада. Падставай для ліквідацыі арганізацыі Мініюст палічыў вынясеньне гэтаму грамадзкаму аб'яднаньню чатырох папярэджаньняў цягам апошняга году і недахопы ў дакумэнтах, прадстаўленых для перарэгістрацыі ЗБС. Паводле пастановы суду, студэнцкая арганізацыя таксама павінна выплаціць судовыя выдаткі і стварыць уласную ліквідацыйную камісію.

Пасьля суду кіраўнік ЗБС Крысьціна Вітушка паведаміла, што Задзіночаньне ня спыніць працы, а нават актывізуе сваю дзейнасьць. "Для нас зразумела, – зазначыла Крысьціна, – што закрыцьцё ЗБС ёсьць адказам улады на тое, што студэнцтва галасавала на прэзыдэнцкіх выбарах супраць Лукашэнкі".

*Паводле "Студэнцкай думкі"*

# Як яны хутка праляцелі, гэтыя 10 гадоў...

***У мінулую нядзелю Магілёўская гарадзкая габрэйская суполка ўрачыста і весела адзначыла сваё 10-годзьдзе.***

Улада прадаставіла для вечарыны Палац піянэраў, у якім было цёпла, праўду сказаць, не ад адключаных батарэяў ацяпленьня, а ад цеплыні сэрцаў і пачуцьцяў людзей, зьяднаных гэтым сьвятам.

Напачатку 90-х гадоў ужо мінулага стагодзьдзя сталася магчымым адкрытае ўтварэньне габрэйскай суполкі, якая згуртавалася вакол нядзельнай габрэйскай школкі, народжанай высілкамі Розы Фарберавай (зараз яна пражывае ў ЗША). Шмат што для суполкі зрабіў яе першы старшыня Міхаіл Шульман. Суполка адразу ўзяла кірунак грамадзкага таварыства, дзе людзі маглі займацца тым, што іх цікавіць: рэлігійнай і агульнай нацыянальнай адукацыяй, гуманітарнай дзейнасьцю і моладзевымі праектамі. Хутка суполка вырасла ў другую па велічыні ў краіне і, бадай, самую актыўную.

Павітаць магілёўскіх сяброў суполкі з нагоды своеасаблівага юбілею на ўрачыстую вечарыну прыехалі старшыня Аб'яднаньня габрэйскіх суполак Беларусі, вядомы архітэктар спадар Левін, дырэктар Прадстаўніцтва амэрыканскага разьмеркавальнага цэнтру спадарыня Ахува Розен. Зразумела, што юбіляраў віталі калегі з усіх вобласьцяў, абласны і гарадзкі выканкамы, прадстаўніцтва "Сахнут". Усіх за ўвагу і шчырасьць ад імя прысутных падзякаваў цяперашні старшыня суполкі Уладзімер Шэлектар.

А затым адбыўся вялікі канцэрт, які засьведчыў вядомую ўсяму сьвету кранальную самабытнасьць габрэйскай культуры.

*Аляксандар ЛІЦІН*
*Фота аўтара*







Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net


... г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 24. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 13.12.2001 г. а 17.05